# Магістрат



Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ і руху БНФ «Адраджэньне» №4(7), красакавік, 2000 г.


**26 красавіка 2000 года ў Віцебску адбудзецца мітынг, прысьвечаны гадавіне чарнобыльскай трагедыі. Запрашаем вас прыйсьці падтрымаць удзельнікаў ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС і выказаць нязгоду з правадзімай палітыкай кіраўніцтва дзяржавы па вытворчасьці прадуктаў харчаваньня ў забруджанай зоне, мізэрных кампэнсацый ахвярам аварыі, засьведчыць, што толькі ў незалежнай дэмакратычнай дзяржаве – выратаваньне беларускае нацыі! Мітынг пачнецца ў 18.00 на плошчы ім. Леніна. Будзем разам!**




# Складана гаварыць пра адзіную дзяржаву

***14 красавіка па ініцыятыве абласной каардынацыйнай рады дэмакратычных партый і грамадзкіх аб'яднаньняў у Віцебску прайшоў "круглы стол" паміж палітыкамі і дзеячамі няўрадавага сэктара Віцебшчыны і Смаленшчыны.***

Сустрэча была прысьвечана праблемам супрацоўніцтва Беларусі і Расеі. Віцебскі бок прадстаўляў шырокі спэктар палітычных і грамадзкіх структураў: Фонд імя Льва Сапегі (ён жа і арганізатар мерапрыемства, за што яму вялікі дзякуй!), партыя БНФ (ініцыятар дыялёгу), Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада), Партыя камуністаў беларуская, мясцовыя аддзяленьні Праваабарончага цэнтра "Вясна" і Беларускага Хельсынкскага камітэта, Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, дэпутаты гарадзкога Савета, прадстаўнікі бізнэс-колаў. Са Смаленска на "круглы стол" прыехалі дзеячы Камуністычнай партыі Расейскай Фэдэрацыі, прадстаўнікі гарадзкога Савета Валеры Кузьняцоў і Ўладзімер Заградзкі.

Дыскусія, нягледзячы на мноства тэмаў, так ці іначай зводзілася да пытаньня аб беларуска-расейскай інтэграцыі. Усе выступоўцы крытычна ставіліся да працэсу аб'яднаньня.

Расейцы паўшчувалі некаторых маскоўскіх палітыкаў за стрымліваньне інтэграцыйных памкненьняў. Маўляў, аб'ядноўваемся дрэнна, бо надта ж павольна (тармозяць інтэграцыю розныя чубайсы і дзядзя Сэм!).

Беларускі ж бок, нягледзячы на разнастайнасьць сьветапогляднай палітры сваіх прадстаўнікоў, быў адзіны: гульні ў Саюз – гэта палітычная кан'юнктуршчына.

Гаварыць пра стварэньне аб'яднанай дзяржавы зараз вельмі складана, — адзначыла ў сваім выступе дэпутат Віцебскага гарсавета, сакратар гаркама ПКБ Галіна Барэйка.

Думка прадстаўніцы кампартыі знайшла рознабаковае абгрунтаваньне ў прамовах іншых беларускіх удзельнікаў міжнароднай сустрэчы.

Смаленскія госьці са свайго боку актыўна адстойвалі ідэі яднаньня братэрскіх народаў, аб'яднаньня дзьвюх дзяржаў.

Перакаваць беларусаў ім не ўдалося. Расейскі бок таксама застаўся пры сваім меркаваньні.

Аднак усе ўдзельнікі прыйшлі да высновы, што такія сустрэчы рэгіянальных эліт трэба працягваць. Наступнае спатканьне хутчэй за ўсё адбудзецца на смаленскай зямлі. Чакаецца, што дыялёг пройдзе пры больш шырокім удзеле расейскіх прадстаўнікоў.

*Юрась Сьцяпанаў*

*Працяг на ст. 6.*

Магістрат

**Заснавальнік:**
Віцебская рада
БНФ «Адраджэньне»
**Выдавец:**
Цэнтар Моладзевых
Ініцыятываў «Контур»
**Галоўны рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Юры Сьцяпанаў
**Дызайн і вёрстка:**
Сяржук Серабро
**Рэдакцыйная рада:**
Юры Землякоў,
Алесь Казакоў,
Юры Корбан,
Іван Марозаў,
Міхась Паўлаў,
Канстанцін Смолікаў,
Юры Сьцяпанаў,
Ігар Цішкін,
Васіль Шалухін

**Тэл./факс рэдакцыі:**
/0212/21-62-35
**E-Mail:**
kontur@vitebsk.net
**HTTP:**
www.vitebsk.net/kontur

Рэдакцыя знаёміцца з карэспандэнцыяй, не ўступаючы ў перапіску.

Матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

**Друк:**
Віцебскае аддзяленьне Фонду імя Льва Сапегі

**Наклад:**
299 паасобнікаў

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня.

# Захаваем даўніну

Вядома, што гістарычны горад вызначаецца ня толькі напісанай і міфалягічнай гісторыяй, а таксама краявідамі, тапанімікай, архітэктурай і культурай адносінаў жыхароў да сваёй спадчыны. Гэтая культура павінна быць зьберагаючай, а не ператвараць спадчыну ў парахню бяспамяцтва.

Зьнешняе аблічча нашага горада на працягу доўгіх гадоў вызначалася ў асноўным прыхамасьцю высокіх, але ў сваёй большасьці далёкіх ад нацыянальнай сьвядомасьці, чыноўнікаў і часткай адмыслоўцаў, якія па свайму грамадзка-генэтычнаму паходжаньні тоесны гэтаму чынавенству.

Часта гэтыя "творцы" і самі выступалі з разбуральнай ініцыятывай толькі дзеля зацьвярджэння сваіх асоб у якасьці знакавых постацей на руінах гістарычнай спадчыны.

Паступова, крок за крокам, у нашым горадзе разбурана тое, што падлягала аднаўленьню і нават разбурана існаваўшае, якое павінна было стаць матэрыяльным увасабленьнем духоўных каштоўнасьцяў і ўпрыгожваньнем гістарычнага цэнтра (прыгадаем ансамбаль будынкаў на плошчы Свабоды, ансамбаль культавых, гандлёвых і будынкаў радавой забудовы насупраць ратушы, будынкі па вуліцы Талстога і інш.).

Сёння размова ідзе пра будаўніцтва, што пачалося каля летняга амфітэатра, у "лепшых" традыцыях "украшатели" нашага горада робяць чарговы крок, які разбурае старажытны абарончы вал побач з зафіксаванымі рэшткамі крэпасных умацаваньняў XIV ст. На іх ужо спакушаліся віцебскія дойліды, калі будавалі побач з гістарычным і археалагічным помнікам прыбіральню.

Праектыроўшчыкаў і былога сакратара абкама У. Грыгор'ева папярэджвалі аб непрыдатнасьці выбранага месца для гучных відовішчаў, але гэтая думка была праігнаравана. Зараз робіцца тое самае і зноў аглушальна будуць грымець мэлёдыі, узмоцненыя сучаснымі прыстасаваннямі побач з Духаўскім ровам, дзе у 1917 годзе растрэльвалі непажаданых для новай улады віцьблян.

Далёкія продкі-язычнікі спраўлялі трызну ў выглядзе рысталішча на могілках памёрлых. Гэтым яны дэманстравалі сваю жыцьцяздольнасьць. Але мы жывем у сьвеце іншых маральных уяўленьняў, несумесных з разбуральнымі дзеяньнямі духоўных і матэрыяльных каштоўнасьцяў. Здаецца, што надыйшоў ужо час гэта улічваць.

Каб прыпыніць разбурэньне гістарычных мясцін горада і асабліва яго гістарычнага цэнтра, не будаваць на могілках офісы, жылыя будынкі і гаражы, патрэбна пільная ўвага грамадзкасьці. Каб гэта не ператварылася ў перашкоду ўсялякай стваральнай дзейнасьці, неабходна, як гэта было раней, аднавіць працу незалежнай грамадзкай камісіі пры гарвыканкаме ў складзе адмыслоўцаў, навукоўцаў, прадстаўнікоў грамадзкасьці, што зацікаўлены ў захаваньні культурна-гістарычнай спадчыны нашага горада.

***Валяньцін Арлоў, старшыня гар. рады ТБМ***

# За графіці больш не саджаюць!

***У Віцебску прайшоў судовы працэс над стваральнікам палітычных графіці.***

На лаве падсудных апынуўся непаўналетні Юрась Землякоў. Увечары 16 лютага ён зрабіў на агароджах алейнага завода некалькі патрыятычных і антыпрэзыдэнцкіх надпісаў, пратэстуючы супраць антыбеларускай палітыкі, якую праводзіць Расея і цяперашні менскі рэжым. Акцыю юнака заўважылі, і ён быў затрыманы на нейкі час. Паводле Адміністрацыйнага кодэкса школьніка абвінавацілі ў дробным хуліганцтве.

11 красавіка ў Першамайскім раённым судзе адбыўся разгляд справы. На працэсе падсудны падкрэсьліў, што зьдзейсьніў свой учынак, каб выказаць нязгоду зь дзеяньнямі ўладаў, якія ідуць на зьбліжэньне з Масквой, ня ўлічваючы тых пагроз, што нясе нашай краіне Саюз з Расеяй.

Адвакат Валяньціна Польнікава разьвіла думку свайго падабароннага, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на тое, што беларускае грамадзтва моцна хвалююць баявыя дзеяньні на Каўказе. Далейшая інтэграцыя можа прывесьці да таго, што беларускія жаўнеры будуць накіраваныя на вайну ў Чачню. Менавіта трывога за свой лёс і будучыню беларускага народу падштурхнулі маладога чалавека да напісаньня графіці. Лёзунгі на сьценах не нанесьлі якой-небудзь сур'ёзнай матэрыяльнай шкоды і пагэтаму абаронца прапанавала спыніць справу Юрася Землякова за малазначнасьцю.

Аднак судзьдзя Галіна Зазуля прытрымлівалася крыху іншага меркаваньня. Яна прысудзіла юнака да штрафу ў памеры адной мінімальнай зарплаты (2200 рублёў).

Магчыма, вынікі працэсу былі б інакшымі, калі б у судзе былі выслуханыя довады прадстаўніка праваабарончага цэнтра "Вясна" Міхала Паўлава. Яму не дазволілі выступіць у якасьці грамадзкага абаронцы, бо ён, на думку судзьдзі, ня меў адпаведных для гэтага дакумэнтаў.

***Юрась Сьцяпанаў***

# Дэмакратаў хвалюе аўтарытэт “сілавікоў”

***4 красавіка Віцебская абласная каардынацыйная рада дэмакратычных партый і грамадзкіх аб'яднаньняў, у якую ўваходзяць найбольш значныя і ўплывовыя палітычныя сілы і структуры няўрадавага сэктара рэгіёну, разгледзіла факт затрыманьня 25 сакавіка ў Віцебску дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13 скліканьня, карэспандэнта газэты “Народная воля” Валерыя Шчукіна.***

Каардынацыйная рада адзначыла, што спадар Шчукін быў незаконна затрыманы супрацоўнікамі міліцыі ў час выкананьня сваіх прафэсійных абавязкаў журналіста, а затым арыштаваны на 10 сутак паводле рашэньня суда Чыгуначнага раёна Віцебска. У ходзе судовага працэсу Валеры Шчукін быў пазбаўлены права на юрыдычную дапамогу. Апроч таго, суд праходзіў закрыта, на яго не выклікаліся сьведкі з боку затрыманага журналіста. Усё гэта, на думку чальцоў Каардынацыйнай рады, зьяўляецца парушэньнем адпаведных законаў ды падрывае аўтарытэт віцебскіх праваахоўных органаў.

Рэгіянальная Каардынацыйная рада выказала абурэньне дзеяньнямі ахоўнікаў правапарадку, рашэньнем Чыгуначнага раённага суда горада Віцебска і накіравала ў абласную пракуратуру заяву з просьбай разгледзіць названыя факты парушэньня заканадаўства.

# Кадры вырашаюць усё

***1 красавіка ў Віцебскай абласной арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) адбыліся кадравыя зьмены.***

Партыйная канфэрэнцыя, на якой прысутнічалі 30 дэлегатаў ад абласнога цэнтра, Оршы, Наваполацка, Гарадка, Лёзна і іншых мясьцін, абрала новым кіраўніком віцябляніна Анатоля Гнеўка. Дзеля актывізацыі працы абласной структуры БСДП (НГ), сацыял-дэмакраты ўтварылі камітэт зь сямі прадстаўнікоў найбуйнейшых гарадзкіх і раённых арганізацый партыі.

# Уладар перастараўся

***Віцебская гарадзкая рада партыі БНФ распаўсюдзіла заяву з нагоды менскіх падзей 25 сакавіка.***

У ёй віцебскія фронтаўцы выказалі ўпэўненасьць, што “жорсткая сілавая акцыя была заплянаваная, як калісьці і вайна ў Чачні, для падвышэньня рэйтынгу Пуціна”. Гэта кандыдат на прэзыдэнцкі фатэль “выдатна згуляў ролю абаронцы расейскіх журналістаў”. “Расейская партыя ўлады яшчэ раз добра скарыстала беларускія падзеі ў якасьці выбарчай агіткі”,— лічаць прадстаўнікі гарадзкой рады БНФ.

Але ж беларускі ўладар перастараўся, выслужваючыся перад Масквой. На думку віцебскіх бээнэфаўцаў, “сотні пацярпелых грамадзянаў ёсьць паказчыкам гістарычнай рэакцыі нелегітымнага правадыра на падзеі вясны гэтага года. Гэта няўклюдныя целярухі чалавека, які сам сябе завёў у палітычны тупік і прывёў нашую краіну да апошняй рысы зьбядненьня”.

Сёньняшняя беларуская ўлада паказала менскім пабоішчам, што ніякіх перамоваў, свабодных і справядлівых выбараў ня будзе, — робяць выснову віцебскія прыхільнікі Фронту. Гарадзкая рада БНФ заклікала міжнародную супольнасьць “не прызнаваць выбары, заплянаваныя Лукашэнкам, як свабодныя і справядлівыя, а іх вынікі – як сапраўднае волевыяўленьне беларускага народу”.

# Улада contra Шчукіна

***Валеры Шчукін стаў, напэўна, апошнім беларускім журналістам, якога афіцыйныя ўлады даволі доўга перасьледавалі за спробу асьвятліць падзеі 25 сакавіка.***

На Дзень Волі Шчукін знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Віцебску, дзе быў схоплены міліцыяй. 20 красавіка ён зноў завітаў у наш горад. Аднак не па добрай волі. Ён прыехаў на суд. Дэпутата Вярхоўнага Савета 13 скліканьня, карэспандэнта газэты “Народная воля” Валерыя Шчукіна абвінавацілі паводле аднаго з артыкулаў Адміністрацыйнага кодэкса за спробу зладзіць несанкцыянаваную вулічную акцыю.

У пачатку красавіка па гэтай справе прайшло першае судовае паседжаньне. Яно было закрытым і адбывалася ў сьценах Чыгуначнага РАЎС. Сюды прама з-за кратаў быў дастаўлены спадар Шчукін, 27 сакавіка асуджаны на арышт за непадпарадкаваньне міліцыянтам на Дзень Волі.

Падсуднаму быў прадастаўлены адвакат. Аднак Шчукін не пагадзіўся з такой прапановай і склаў хадайніцтва аб замене дзяржаўнага абаронцы на свайго адваката Тацьцяну Вардомскую. Судзьдзя Сьвятлана Туфан была вымушаная перанесьці судовае паседжаньне на 12 красавіка, а сп. Шчукін атрымаў волю пасьля 10-дзённай “адсідкі” ў прыёмніку-разьмеркавальніку.

Наступныя – ужо адкрытыя – судовыя паседжаньні праходзілі ў будынку Чыгуначнага раённага суда. Разгляд справы журналіста прыцягнуў увагу грамадзкасьці. Ход працэсу адсочвала прадстаўніца Арганізацыі па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе. Падсудны выказваў катэгарычную нязгоду з абвінавачаньнем. Ён неаднаразова падкрэсьліваў, што выконваў 25 сакавіка свой прафэсійны абавязак.

Судзьдзя ўважліва прапрацавала ўсе дэталі справы, апытаўшы 12 і 20 красавіка восем сьведкаў, у тым ліку 5 міліцыянтаў, што затрымлівалі спадара Шчукіна 25 сакавіка.

21 красавіка сп-ня Туфан вынесла рашэньне, паводле якога судовы перасьлед журналіста спыняецца за адсутнасьцю падзей і складу правапарушэньня. Суд зьняў з В. Шчукіна абвінавачаньні ў арганізацыі на Дзень Волі ў Віцебску недазволенай вулічнай акцыі.

*Старонку падрыхтаваў Юрась Сьцяпанаў*

**Расклад працы Беларускай службы радыё «Свабода» з 26 сакавіка 2000 года**

| ЧАС | ЧАСТОТЫ | ХВАЛІ |
|---|---|---|
| 18.00 – 19.30 | 7295 кГц<br>9610 кГц<br>11725 кГц<br>15565 кГц | 41 м<br>31 м<br>25 м<br>19 м |
| 22.00 – 23.30 | 6105 кГц<br>9535 кГц<br>9750 кГц<br>11865 кГц | 49 м<br>31 м<br>31 м<br>25 м |
| 06.00 – 07.00 | 6065 кГц<br>7295 кГц,<br>9635 кГц<br>9750 кГц | 49 м<br>41 м<br>31 м<br>31 м |

**п/с 111, г. Менск-5, 220005, Беларусь; Vinohradska 1, Praha 110 00, Чэхія.**

# Праваабарончая калонка

Уладзімір Валжанкоў, жыхар г. Віцебска, абвінавачаны ў зьдзяйсьненьні злачынстваў па арт. 201 ч. 2 (злоснае хуліганства), арт. 87 ч. 3 (тайны крадзёж маёмасьці), арт. 88 КК РБ вырокам Першамайскага суда г. Віцебска ад 13.10.1999г. атрымаў тры з паловай гады пазбаўленьня волі з адбываньнем тэрміну ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

18.10.1999г. бацькі асуджанага накіравалі ў пракуратуру Віцебскай вобласьці заяву, сьцьвярджаючую, што ў пэрыяд сьледчых дзеяньняў з 24 па 28 верасьня 1999г. да іхнага сына сьледчымі Першамайскага РАУС г.Віцебска Лапавухавым С., Драздовым С., Капусьцінскім М., Сяргеевым Д. былі прыменены фізічныя і псыхічныя ўзьдзеяньні. Яны заяўляюць, што ў ноч з 24 на 25 верасьня 1998г. згаданыя супрацоўнікі РАУС зьбівалі Уладзіміра, травілі газам з табельных балёнчыкаў. Маці Валжанкова паказвае, што знаходзілася ў гэты час у будынку РАУС і ўсё чула.

28 верасьня Валжанкова адпусьцілі дадому. Пры аглядзе бацькамі зафіксаваныя крывападцёкі і пашкоджаньні скураных покрываў на грудзёх, паясьніцы, нагах і галаве.

29 верасьня бацькі напісалі скаргу на дзеяньні міліцыянтаў у Кастрычніцкую пракуратуру. Валжанкоў быў агледжаны судова-медыцынскім экспэртам. 8 сьнежня прыйшоў адказ з пракуратуры – у завядзеньні крымінальнай справы адмоўлена. Бацькі сьцьвярджаюць, што пасьля гэтай скаргі пачаліся пагрозы ад міліцыянтаў Драздова С. і Сяргеева Д.

Па меркаваньні бацькоў, паказаньні з абвінавачваных атрыманы незаконным шляхам з ужываньнем катаваньняў і яны намераны дамагчыся перагляду выроку суда.

*Падрыхтаваў М.Пайлаў, Віцебскае аддзяленьне Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*

# БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Кожны панядзелак а 19-й гадз.
По адрасу: вул. Герцана, д. 10/7, трэці паверх, каб. 57.
Уваход са двара, там дзе шыльда "Учебный пункт".
Тэлефон для кантактаў: 21-62-35 (Юрась, Кастусь).

*Васіль Шалухін, кіраўнік Віцебскай гарадзкой рады БНФ "Адраджэньне"*




# Пяцітысячнае!

18 красавіка пасьведчаньне сябры БНФ зь пяцітысячным юбілейным нумарам было ўрачыста ўручанае ў мястэчку Наваельня Дзятлаўскага раёну настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Ганне Дудар. Уручалі юбілейнае пасьведчаньне старшыня БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ Вінцук Вячорка і яго намесьнік Вячаслаў Сіўчык.

" Асабліва прыемна, што актывісты БНФ – гэта нашая нацыянальная інтэлігенцыя", — зазначыў Вінцук Вячорка.

# Сустрэча

Старшыня БНФ Вінцук Вячорка ўдзельнічаў у сустрэчы Цэнтраў Плюралізму, якая праходзіла ў Тбілісі(Грузія) з 13 па 16 красавіка сёлета. У сустрэчы бралі ўдзел прадстаўнікі 20 краінаў.

На спатканьні з кіраўнікамі апазыцыйных партыяў краін блёку ГУАМ абмяркоўваліся пытаньні міжнароднай салідарнасьці барацьбітоў з таталітарнымі й аўтарытарнымі рэжымамі, а таксама пэрспэктывы пашырэньня блёку ГУАМ коштам Беларусі пасьля яе дэмакратызацыі. В. Вячорка спаткаўся таксама з прадстаўнікамі чачэнскіх і касаварскіх грамадзкіх арганізацыяў, а таксама кубінскай палітычнай эміграцыі.

У сетку Цэнтраў Плюралізму ўваходзяць арганізацыі, паўсталыя ў краінах былога "сацыялістычнага лягеру" і ўтвораныя былымі дысыдэнтамі. Сустрэчы Цэнтраў праводзяцца два разы на год і аб'ядноўваюць вядомых палітычных і грамадзкіх дзеячоў з Усходняй Эўропы, Амэрыкі, Азіі.

# Кіраўніцтва БНФ наведала Баранавічы

18 красавіка старшыня БНФ "Адраджэньне" Вінцук Вячорка і Вячаслаў Сіўчык наведалі Баранавічы. Адбылася прамая лінія з чытачамі газэты "Intex-Press". На працягу дзьвюх гадзінаў Вінцук Вячорка адказваў на пытаньні чытачоў. Незалежная прэса ў Баранавічах карыстаецца даволі вялікай папулярнасьцю. Наклад незалежных газэтаў "Intex-Press" і "Шаг" у суме – 28 тысячаў. Таксама ў Баранавічах карыстаюцца папулярнасьцю незалежныя газэты "Брестский курьер" і Івацэвіцкая "Газэта для вас".

Пасьля прамой лініі адбылася сустрэча Вінцука Вячоркі і Вячаслава Сіўчыка з кіраўніцтвам і сябрамі мясцовай гарадской арганізацыі БНФ, дзе абмяркоўвалася правядзеньне "Вясны 2000" і разглядаліся актуальныя агульнапалітычныя пытаньні.

*Прэсавая група БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ*

* * *

«Оплеуху каждому белорусу, который хочет видеть свою страну современным, демократическим европейским государством,» – так охарактеризовал посол США в Беларуси Даниэл Спекхард приговор к 6 годам лишения свободы с конфискацией имущества, который был вынесен 17 марта 2000 года Андрею Климову. Хотя приговор Климову вынесен по обвинениях в хищениях и служебном подлоге, США па прежнему считают, что основной причиной преследований Климова является его несогласие с политикой сегодняшнего руководства Беларуси. По мнению посла США, процесс над Климовым «еще раз подчеркнул то, в чём уверена большая часть белорусов - суды в Беларуси не являются независимыми».